Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22 900.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 2-36-32-89

# НАВІНЫ



Пятніца, 11 верасня 1998 г. № 96 Кошт свабодны

**СВАБОДА** Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Новы прыступ інтэграцыі

**Расійская Дзярждума прапанавала неадкладна склікаць пазачарговую сесію Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі і запрасіць на яе прэзідэнтаў Барыса Ельцына і Аляксандра Лукашэнку.**

Заяву на гэты конт Дума прыняла ў сераду. Думскія дэпутаты прапануюць разгледзець на сумеснай сесіі пытанне «аб мерах па ўмацаванні Саюза». Дзярждума звярнулася да Барыса Ельцына з прапановай правесці тэрміновыя кансультацыі з прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам па пытаннях пошуку сумесных шляхоў выхаду з крызісу.

Парламенцкаму сходу Саюза Беларусі і Расіі рэкамендавана да 10 кастрычніка 1998 года прыняць нарматыўныя акты, якія б мелі статус заканадаўчых рэкамендацыяў Саюза, «Аб увядзенні адзінага грамадзянства Саюза Беларусі і Расіі», «Аб дзяржаўным гімне, гербе і сцягу Саюза Беларусі і Расіі», «Аб парламенце Саюза Беларусі і Расіі і прамых выбарах у яго». Мяркуецца, што гэтыя законы потым будуць перададзеныя для зацверджання ў нацыянальныя парламенты.

Б.П.

## Антановіч перайшоў на эпісталярны жанр

**Міністр замежных справаў Іван Антановіч накіраваў пісьмо дзяржсакратару ЗША Мадлен Олбрайт.**

Змест паслання пакуль трымаецца ў сакрэце, але, як сцвярджаюць нашыя крыніцы ў МЗС, Антановіч запрапанаваў у лісце каля 20 варыянтаў для размяшчэння рэзідэнцыі амерыканскага пасла ў Мінску. Да пісьма прыкладаюцца нават фотаздымкі пералічаных памяшканняў. Беларускі бок спадзяецца перакапаць, што высяленне з Драздоў пасла Дэніела Спекхарда і знішчэнне агароджы вакол яго рэзідэнцыі не мела антыамерыканскай накіраванасці. Цяпер Іван Антановіч з нецярпеннем чакае адказу ад амерыканцаў.

Тым часам беларускі пасол у ЗША Валерый Цэпкала прагназуе, што ягоны вымушаны адпачынак у Мінску можа зацягнуцца яшчэ на два-тры месяцы. В.Цэпкала сказаў, што праводзіць час плённа і нават збіраецца напісаць новую кнігу.

У амерыканскай амбасадзе нам паведамілі, што ЗША настойваюць на выкананні беларускім бокам Венскай канвенцыі. Яна прадугледжвае недатыкальнасць рэзідэнцыяў замежных дыпламатаў. Амерыканскі бок чакае, калі беларуская ўлады забяспечаць свабодны доступ на сваю тэрыторыю ў Драздах. Пасля гэтага, мабыць, можна будзе весці нейкія перамовы.

Алесь ДАШЧЫНСКІ

## Галадоўка пачалася ў судзе

**Адзін з лідэраў маладзёжнай арганізацыі Малады Фронт Яўген Скочка абвясціў сухую галадоўку.**

У ноч на 8 верасня Яўген Скочка, а таксама непаўналетні Цімафей Дранчук былі затрыманыя міліцыяй непадалёк ад прахадной Мінскага аўтамабільнага завода. Хлопцаў узялі за тое, што яны напісалі на агароджы МАЗа «Хартыя-97. Власть народу!» На працягу ночы малады людзей трымалі ў Заводскім РАУС Мінска.

Раніцай 8 верасня адбыўся суд, які вынес Яўгену Скочку 10 сутак арышту, а Цімафею Дранчуку — 400 тысяч рублёў штрафу. Як паведамляе прэс-цэнтр Хартыі-97, суддзя Белазкоў адмовіўся задаволіць хадайніцтва Скочкі аб прадастаўленні яму адваката. Пасля абвяшчэння прыгавору, адразу ж у зале суда Яўген Скочка абвясціў аб пачатку сухой галадоўкі.

Б.П.



# Праверкі на дарогах

**Беларускія ўлады пачалі інтэнсіўную кампанію па абароне ўнутранага спажывецкага рынку.**

Аляксандр Лукашэнка на нарадзе ў Савеце міністраў аддаў распараджэнне сілавым структурам перакрыць усе шляхі несанкцыяванага вывазу тавараў з Беларусі, у першую чаргу — у Расію, з якой, як вядома, няма мяжы. Прэзідэнт запатрабаваў прыняць *«жалезныя меры»* супраць «чаўнакоў». Выстаўленыя на ўсіх дарогах міліцэйскія пасты павінны канфіскоўваць не толькі тавары, але і транспарт кантрабандыстаў, а супраць іх самых загадана заводзіць крымінальныя справы.



Заява прэзідэнта вельмі сур'ёзная. Не існуе ніякіх заканадаўчых актаў, паводле якіх супраць людзей, што набылі тавар за свае грошы і вязуць яго на продаж, можна было б узбудзіць крымінальную справу. Спекуляцыяй у законе называецца толькі перапродаж тавараў, купленых у дзяржаўным гандлі, але ж дзяржаўных крамаў у нас практычна не засталося (амаль усе яны з'яўляюцца арэнднымі прадпрыемствамі або акцыянернымі таварыствамі), а на вёсцы гандаль манапалізавала спажывецкая кааперацыя — фармальна таксама недзяржаўная структура. Тым больш закон не дазваляе канфіскоўваць без суда аўтамабілі.

Мы спрабавалі высветліць, ці існуе афіцыйны дакумент, на падставе якога павінна дзейнічаць міліцыя. Аднак ні ў прэзідэнцкай адміністрацыі, ні ў Савеце міністраў, ні ў МУС адказу нам не далі. Чыноўнікі або самі нічога не ведаюць, або — *«нічога не можам дадаць да словаў прэзідэнта»*. Хутчэй за ўсё, ніякага пісьмовага дакумента і няма. Прэзідэнт вусна загадаў: маўляў, вы рабіце, а паперы аформім пасля.

Вось так проста і па-бальшавіцку. Вусны загад прэзідэнта стаў вышэй за закон. За некалькі дзён на ўсходняй мяжы канфіскавана тавараў на 6 мільярдаў рублёў. Як перадае агенцтва Інтэрфакс, вышуковыя міліцэйскія групы працуюць і на аўтамабільных дарогах, і ў цягніках, што ідуць у Расію.

Аднак першыя поспехі міліцыі ў барацьбе з кантрабандыстамі Лукашэнку зусім не радуюць. У сераду, падчас нарады з кіраўнікамі міністэрстваў і ведамстваў, ён папракаў дзяржсакратара Савета бяспекі Віктара Шэймана за тое, што ягоныя структуры працуюць недастаткова эфектыўна. *«Мяне не цікавіць, колькі тонаў тавару вы затрымалі. Шэсць мільярдаў — гэта не работа, вы больш патрапілі на кантроль!»* — абураўся Рыгоравіч. Лукашэнка запатрабаваў, каб Шэйман у самы бліжэйшы час паведаміў яму аб асобах, супраць каго ўжо завялі крымінальныя справы за вываз тавараў. Значыць — завядуць, няма сумневу.

Разам з тым Лукашэнка загадаў арганізаваць эшалоны для «цэнтралізаваных паставак» харчовых тавараў у Расію, каб дапамагчы *«рускаму чалавеку, які сёння трапіў у бяду»*. Так што харчы будуць вывозіць. Калі не ў багажніках легкавікоў — дык вагонамі. Нам ад гэтага сытней не стане.

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

## З банкаў забіраюць валюту

***Напалоханыя ўкладчыкі не давяраюць дзяржаве***

**Колькасць людзей, якія жадаюць забраць валюту з рахункаў у беларускіх банках, расце з кожным днём.**

Як паведамілі ў адным з банкаў рэспублікі, сітуацыя пачала пагаршацца ў апошні тыдзень. Пры гэтым, як сцвярджае банкаўская крыніца, некаторыя фінансавыя ўстановы рэспублікі спрабуюць не дапусціць зняцця ўкладчыкамі іх валютных сродкаў. Эксперты лічаць, што з пачатку верасня валютныя ўклады насельніцтва Беларусі ў камерцыйных банках скараціліся прыкладна на 10%.

*БелаПАН*

## Схадзіў у рэстаран – атрымаў вымову

**Групе брэсцкіх чыноўнікаў з абласной і раённай спажыўкааперацыі вынесены строгія вымовы «за распіцце спіртных напояў падчас уборачнай кампаніі».**

Яны мелі неасцярожнасць позна ўвечары, пасля рабочага дня заехаць у рэстаран «Ясельда» пасёлка Лагішын Пінскага раёна, каб у нефармальнай абстаноўцы абмеркаваць вынікі рэвізіі. Ведаючы пра гэта, у рэстаран прыехалі старшыня Пінскага міжраённага камітэта дзяржкантролю В.Мацукевіч і начальнік Лагішынскага ўчастка міліцыі А.Цурыкаў. Яны зафіксавалі факт «калектыўнай п'янкі». Усе ўдзельнікі застолля вымушаныя былі падаць тлумачальныя запіскі.

На іх шчасце, справа закончылася не звальненнем, а толькі вынясеннем строгіх вымоў. За што?

*БелаПАН*

# У «Рассвеце» новыя парадкі

***«У нас цяпер зусім новыя парадкі»,* — кажуць работнікі некалі знакамітага калгаса «Рассвет» і па сакрэце распавядаюць пра сваё новае жыццё.**

Па-першае, упершыню за многія гады рассветаўцы цяпер працуюць фактычна без выхадных: як пачалі з вясны ўсіх выганяць на палі, дык канца гэтаму не бачна. Працуюць людзі ад цямна да цямна, а толку ўсё роўна няма. Ураджай сабралі небагаты — у сярэднім па 15–20 цэнтнераў з гектара. У Старавойтаўскія часы не здзіўляліся і 30 цэнтнерам з гектара, а сёння гэтая лічба падаецца фантастычнай.

Цяпер кіруе гаспадаркай новы старшыня Валерый Іваноў. Дом для яго пабудавалі ў райцэнтры. Трохпавярховы. Намеснік старшыні Маскалёў таксама будуецца «ўдарнымі тэмпамі». Не адстае ад іх і намеснік па прамысловасці Пётр Лукашэнка, пра якога мясцовыя гавораць, што ён стрыечны брат «самага». «Брат» будуе сабе катэдж у Мышкавічах якраз насупраць дома, у якім жыве сям'я Васіля Старавойтава.

Яшчэ адна навацыя: пабудавалі свой піўны заводзік. Ліцэнзіі ён пакуль не атрымаў, але піва ўжо гатуе. Так што начальства цяпер мае дармавы напой. Праўда, дзеляцца і з простым людам. *«Калі жыта жалі, то ў поле нам прывозілі тое піва. Нічога сабе, толькі мутнае»,* — кажуць механізатары.

Гэта бадай адзіная светлая пляма ва ўсіх успамінах за пражыты сельскагаспадарчы год. Увогуле многія б з «Рассвета» з'ехалі куды далей ад новых кіраўнікоў, праваючых ды следчых, што не перастаюць шастаць туды-сюды па гаспадарцы, але як быць з жыллём? Яшчэ летась людзям абяцалі даць магчымасць прыватызаваць калгасныя кватэры, але дагэтуль слова не стрымалі. Зараз абяцаюць да 1 студзеня. Вось людзі і чакаюць «юр'ева дня».

Яшчэ рассветаўцы кажуць пра доўгія чэргі на бензазапраўцы ў райцэнтры, пра пустыя паліцы сваіх крамаў і асабліва скардзяцца на тое, што зусім няма цукру ды макаронаў. Усё астатняе — як раней. Усе капаюць бульбу.

Алесь ПАЎЛОВІЧ

# Навошта мінфіну лішняя кантора?

*Зарплату там плацяць рэгулярна*

**Сёння кіраўнік прадстаўніцтва Сусветнага банка Дэвід Філіпс збіраецца пакінуць Беларусь.**

Сусветны банк вырашыў прыпыніць падрыхтоўку новых праектаў у Беларусі, таму што лічыць бесперспектыўнай эканамічную палітыку беларускіх уладаў. Аднак урадавыя чыноўнікі неахвотна рэагуюць на гэтыя перамены.

У рамках крэдытнага пагаднення з Сусветным банкам у 1993 годзе пры міністэрстве фінансаў стварылі спецыяльнае агенцтва па рэалізацыі праектаў міжнародных арганізацыяў. Крэдытнае пагадненне з СБ вычарпала сябе яшчэ ў 1996 годзе, а ўтрыманне агенцтва стала бессэнсоўным. Аднак міністэрства фінансаў не расфармавала гэтую структуру, спадзеючыся, што яна яшчэ спатрэбіцца для новых міжнародных праектаў. Замест гэтага прыйшлі непрыемныя навіны. Сусветны банк заявіў, што новых праектаў не будзе. Іншыя міжнародныя фінансавыя арганізацыі таксама не выказваюць попыту на паслугі агенцтва. Чым жа займаюцца 12 яго супрацоўнікаў, для якіх мінфін арандуе офіс?

Кіраўнік агенцтва Васіль Тарасевіч прызнаўся ў размове з карэспандэнтам НАВІНАЎ, што «перспектываў няма». Аднак зачыняць кантору ніхто не збіраецца. Усе супрацоўнікі агенцтва спраўна атрымліваюць зарплаты і прэміі з бюджэту. Цяжка ўявіць такое ў міністэрстве фінансаў, дзе не павінны выкідваць грошы на вецер.

«Злыя языкі» сцвярджаюць, што гэтая кантора працягвае існаваць толькі таму, што кіруе агенцтвам сын намесніка міністра фінансаў В.Тарасевіч, а нявестка працуе тут жа галоўным спецыялістам.

Мікола ВАЙТОВІЧ

# Беларускі скандал на Пірэнеях

**У Іспаніі адбыўся скандал, звязаны з адпачынкам у гэтай краіне дзяцей з Магілёва.**

160 магілёўскіх дзяцей адпачывалі ў паўднёва-ўсходніх раёнах Іспаніі. Паездку ў гэтае далёкае замежжа арганізоўвала ўпраўленне адукацыі Магілёўскага гарвыканкама. Бацькам гэта каштавала па 200 долараў за дзіця, а два мільярды рублёў павінен быў унесці гарвыканкам.

Калі праз месяц адпачынку дзеці сабраліся ў аэрапорце, высветлілася, што самалёт па іх не прыляцеў. Аказваецца, не было заплачана. Кіраўнік правінцыі Мурсія, дзе ўсё адбывалася, нават распарадзіўся на ўсялякі выпадак аддаць санаторый непадалёк пад часовае прыстанішча беларусам. Іспанцы пачалі рабіць экстранныя захады і ў выніку неабходныя 15.000 долараў знайшлі. Частку сродкаў унеслі іспанскія сем'і, што прымалі беларускіх дзяцей. Самалёт вылецеў са спазненнем на 8 гадзін.

Сёння вінаватаць ва ўсім Магілёўскі аэрапорт: нібыта ён і павінен быў перавесці неабходную суму. Але варта адзначыць, што арганізаваныя дзяржаўнымі структурамі дзіцячы адпачынак у далёкім замежжы штогод прыносіць скандалы і непаразуменні.

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

# Для бяздомных дзяцей

**Першы ў Беларусі прытулак для юных бамжоў адчыніўся ў Бабруйску.**

Гэтая ўстанова прыме дзяцей, якія або сышлі з дому, збеглі з інтэрнатаў, або зусім невядома, адкуль яны. 3 месяцы будуць знаходзіцца дзеці ў прытулку, пакуль адпаведныя дзяржаўныя органы вырашаць іх далейшы лёс.

Раней у гэтым будынку месціўся дзіцячы садок. Цяпер узрост жыхароў — 8–14 гадоў. Іх тут 30 чалавек.

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

# Наркаманы супраць наркотыкаў

**Былая наркаманка Лінда з Вялікабрытаніі прыехала ў Светлагорск, каб дапамагчы мясцовым наркаманам пазбавіцца згубнай залежнасці.**

Лінда ўзначаліла адну з групаў светлагорскіх ананімных наркаманаў. Мэта такіх групаў — дапамагчы наркаманам распачаць новае жыццё.

Між іншым, захады, што прадпрымаюцца ў Светлагорску па барацьбе з наркаманіяй, апошнім часам даюць пэўныя вынікі. Так, на 14 працэнтаў паменшылася колькасць гараджан, якія ўжываюць наркотыкі эпізадычна. Аднак праблема ўсё яшчэ далёкая ад вырашэння, бо ў горадзе налічваецца 564 наркаманы. І гэта толькі афіцыйна.

Уладзімір ВАЛЕЎСКІ

# Апошні прытулак

**У Гомелі абмяркоўваецца пытанне аб стварэнні хоспіса — апошняга прытулку для безнадзейна хворых людзей.**

Адзіны ў краіне хоспіс існуе ў Мінску. У Гомелі таксама наспела неабходнасць стварэння такой медычнай установы. Па словах галоўнага ўрача Гомельскага анкалагічнага дыспансера Тацяны Прыгожай, штогод на Гомельшчыне выяўляецца больш за 5 тысяч анкалагічна хворых. Толькі ў Гомелі кожны год памірае ад раку каля 900 чалавек. І гэтыя лічбы маюць тэндэнцыю да павелічэння: за апошнія 10 гадоў колькасць анкалагічна хворых павялічылася амаль напалову.

Стварэнне хоспіса дазволіць смяротна хворым людзям пайсці з жыцця годна і мець у апошнія месяцы жыцця добры дагляд. Аднак стварэнне хоспіса — справа складаная. Яна патрабуе сумесных намаганняў органаў аховы здароўя, сацыяльнага забеспячэння, Чырвонага Крыжа, спонсараў. Але, бадай, галоўнае — патрэбныя людзі, гатовыя самаахвярна даглядаць за невылечна хворымі.

Уладзімір ВАЛЕЎСКІ

# Дзень вайсковай славы

**У аўторак, 8 верасня па ініцыятыве БНФ у Мінску адбылася акцыя з нагоды Дня беларускай вайсковай славы. Менавіта ў гэты дзень у 1514 годзе 30-тысячнае войска Вялікага Княства Літоўскага перамагло пад Оршай 80-тысячную армію маскоўцаў.**

У шэсці праз цэнтр сталіцы ўдзельнічалі больш за тысячу чалавек. Калону дэманстрантаў, якая пад нацыянальнымі сцягамі і харугвамі рухалася ад плошчы Якуба Коласа да Опернага тэатра, суправаджалі міліцэйскія нарады, спецыяльныя машыны і аператыўнікі ў цывільным. Шэсцю яны не перашкаджалі, аднак на праспекце Скарыны гэтыя ахоўнікі парадку ўсё ж затрымалі аднаго падлетка, які ехаў на мапедзе з бел-чырвона-белым сцягам. Другі непрыемны інцыдэнт адбыўся непадалёк ад Опернага тэатра, дзе ў калону дэманстрантаў заехала легкавая машына. На шчасце, ніхто з людзей не пацярпеў, а кіроўцам адразу ж заняліся інспектары ДАІ. Сярод удзельнікаў шэсця былі старшыня ВС Сямён Шарэцкі, лідэр сацыял-дэмакратаў Мікола Статкевіч і намеснік старшыні БНФ Юрый Хадыка, які выступіў на плошчы перад Оперным з невялікай прамовай.

Акцыя скончылася выступам прадстаўнікоў рыцарскага клуба, якія разыгралі адзін з эпізодаў Аршанскай бітвы, і спевамі фальклорных калектываў.

У гэты ж дзень на Крапівенскім полі пад Оршай з нагоды свята адбыўся фестываль беларускай аўтарскай песні, а ў мясцовым касцёле была адслужаная імша ў гонар абаронцаў Айчыны.

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

# Рыцары каля Каложы

**У Гродне свайго рыцарскага клуба няма. Таму на Дзень вайсковай славы 8 верасня ў горадзе выступілі пяць латнікаў са сталічнага клуба «Калюмны».**

Рыцарскі турнір стаў галоўнай прынадай для публікі, пераважна моладзі. Раней на падобныя мерапрыемствы збіралася няшмат — чалавек 150. Цяпер жа прыйшло мінімум дзве тысячы. Яны і даведаліся пра тое, што адбылося ў бітве пад Оршай у 1514 годзе, і паглядзелі на міні-бой паміж пяццю рыцарамі. На жаль, турнір закончыўся хутка, і публіка пачала пацяху разыходзіцца, хоць быў яшчэ і канцэрт бардаў.

Свята адбылося побач з старажытнай Каложскай царквой, а рыцарскі турнір — каля памятнага знака «Пагоня на Грунвальд». Брама на царкоўны падворак звычайна зачыненая, але цяпер публіка магла пахадзіць каля Каложы, пастаяць на высокім нёманскім беразе (праўда, пасля гэтага на ўмураваных у царкоўныя сцены вялізных чорных камянях з'явіліся надпісы «здесь был Вася»). Аднак факт відавочны: у Дзень вайсковай славы на рыцарскі турнір у Гродне сабралася нашмат больш людзей, чым на традыцыйнае шэсце і мітынг у Мінску. Арганізатарам варта падумаць...

Рыцарскія турніры сёння вельмі папулярныя ў суседняй Польшчы і ў Еўропе ўвогуле. Яны прыцягваюць шмат турыстаў. У апошняй прагаме Беластоцкага тэлебачання, якая рыхтуецца спецыяльна для гледачоў Гродзеншчыны, якраз быў сюжэт пра турнір у былым крыжацкім замку, дзе напярэдадні Грунвальдскай бітвы немцы трымалі сям'ю гродзенскага князя Вітаўта. Сярод публікі быў малады вавода (па-нашаму — старшыня аблвыканкама) — дарэчы, у рыцарскіх латах.

У Гродне такі турнір павінен быў адбыцца яшчэ тры месяцы назад, на рэспубліканскім свяце нацыянальных культур. Планавалася запрасіць рыцарскія клубы з Іспаніі, Францыі і г.д. Улады, аднак, не здолелі зрабіць нічога... Неяк успомнілася, як пасля рэферэндуму, на якім забаранілі герб Пагоня, адна гродзенская газета выйшла з загалоўкам «Рыцарю не место среди холопов». А гэты першы, хоць і невялікі турнір каля Каложы ў Дзень вайсковай славы наладзілі гарадскія арганізацыі БНФ і Народнай Грамады.

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

# Дзе ж грошы?

Расійскі ваенна-прамысловы канцэрн «МАПО» заключыў кантракт на пастаўку ў Перу запчастак да 18 знішчальнікаў МіГ-29, паведамляе БелаПАН. Гаворка ідзе пра тыя самыя самалёты, якія два гады назад прадала перуанскаму боку беларуская фірма «Белтэхэкспарт».

Наша газета ў свой час паведамляла пра гэтую здзелку. За баявыя машыны Перу заплаціла амаль 400 мільёнаў долараў, але да сённяшняга дня невядома, куды падзеліся грошы. Ва ўсялякім разе, сярод паступленняў у дзяржаўны бюджэт Беларусі яны не значыліся і не значацца.

Міжнародныя эксперты тады адзначалі, што Беларусь прадала самалёты па вельмі нізкім кошце, а газета *New York Times* пісала: «перуанцы спачатку пацiралі рукі, а цяпер — кусаюць локці». Рэч у тым, што беларускі бок не мае тэхнічнай магчымасці праводзіць сервіснае абслугоўванне машын і пастаўляць запасныя часткі. Расія ж блакіравала пастаўку запчастак для гэтых самалётаў, і ўсе спробы Перу набыць іх у трэціх краінаў не далі выніку.

І вось пасля двухгадовых дэбатаў гэты канфлікт вырашыўся — на карысць Расіі, у пройгрышы засталіся і Беларусь, і Перу. Не выключана, што такі ж лёс чакае і нядаўна падпісаны кантракт з Алжырам, куды «Белтэхэкспарт» павінен паставіць 36 аналагічных знішчальнікаў МіГ-29.

Магдалена НЕПАКАЙ

КАДРЫ




# Дырэктар племзавода дзякуе міністру абароны

**Беларускім вайскоўцам, якія прыехалі на вучэнні на Абуз-Лясноўскі палігон пад Баранавічамі, давялося выступаць у ролі пажарных.**

У вёсцы Дзераўная, якая знаходзіцца паблізу палігона, загарэўся дом конюха племзавода «Прыазёрны». Вайскоўцы заўважылі пажар і аператыўна накіравалі туды тэхніку і людзей. Пажар патушылі хутка. Дырэктар племзавода накіраваў міністру абароны А.Чумакову ліст з падзякай.

*БелаПАН*

# Бандытаў забралі ў Доме творчасці

**Міліцыя Адэсы затрымала 109 крымінальных «аўтарытэтаў», якія прыбылі ў гэты горад на сваю сходку з Украіны, Расіі, ЗША і Беларусі.**

Лідэраў крымінілітэту арыштавалі ў Доме творчасці пісьменнікаў, дзе меўся адбыцца з'езд. У іх канфіскавана шмат зброі — стрэльбы, карабіны, пісталеты. Затрыманым інкрымінуецца ўчыненне шэрагу цяжкіх злачынстваў і незаконнае карыстанне зброяй.

Аперацыя па затрыманні прайшла без адзінага стрэлу. Супрацоўнікі органаў унутраных справаў Адэсы адмовіліся даць больш падрабязную інфармацыю аб затрыманых «аўтарытэтах» з Беларусі. Міліцэйскае начальства лічыць, што «сітуацыя пакуль не прадугледжвае каментарыяў».

*БелаПАН*



*Адзінокая старасць — гэта бяда. На вуліцах вялікіх гарадоў жабруюць пераважна жанчыны. «Дзед мой памёр, хто ж мне паможа?» — сказала адна жабрачка, што сядзіць звычайна на вуліцы Леніна ў Мінску. «А мой ляжыць дома, жабраваць стыдаецца», — гаворыць другая. Ніхто з іх ніколі не скажа ўсёй праўды, чаму яны выйшлі з працягнутай рукой.*

*На здымку ўверсе — мінская жабрачка. Нейкі чалавек даў ёй банан: сама яна гэты заморскі прысмак напэўна не купіла б. А ніжні здымак — карцінка з Кіева. Аўтобусны прыпынак і бадзяжныя сабакі, відаць, і сапраўды «зона камфорту» для гэтай кабеты.*




# Лепшыя сябры паэтаў

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**



Днямі я ўбачыў у газетным кіёску дзве новыя кнігі, якія стаялі побач: Сталін і Пушкін. З партрэтамі на вокладцы, выпушчаныя ў адной серыі. Дзіўнае суседства. З Пушкіным усё зразумела — юбілей у наступным годзе і адзначацца будзе ў нас гэтак, быццам ён — народны паэт Беларусі. Да свайго сораму, аднак, даведваюся, што і ў Сталіна юбілей таксама намячаецца — 120 гадоў з дня нараджэння. Карацей, абодва юбіляры.

Зрэшты, гэтыя два імя паміж сабой усё ж звязаны. Пры Сталіне былі шырока адзначаныя 100-ыя ўгодкі, але не нараджэння, а смерці Пушкіна, якія прыпалі на «год вялікіх рэпрэсіяў» —1937-ы. Невыпадкова паявіўся тагачасны анекдот з аднаго сказа: *«Каб таварыш Пушкін жыў у Расіі не ў XIX, а ў XX стагоддзі, ён усё адно памёр бы ў 37-ым годзе»*. Але пры Сталіне, менавіта ў тым жа годзе, пачаў выходзіць самы поўны збор твораў паэта — з 17 тамоў. Карацей, паважаў Іосіф Вісарыёнавіч Аляксандра Сяргеевіча. Пра гэта па-свойму сведчыць яшчэ адзін тагачасны анекдот наконт праектаў помніка паэту: «Трэцяя прэмія: *«Пушкін чытае творы Сталіна»*. Другая прэмія: *«Сталін чытае творы Пушкіна»*. Першая прэмія: *«Сталін чытае творы Сталіна»*.

Выходзячы з усяго, можна дапусціць, што «правадыр народаў» у пэўнай ступені раўнаваў да паэта. Як вядома, у юнацкія гады пад псеўданімамі «І.Джшвілі» і «Сасела» ён друкаваў у каўказскіх газетах свае вершы і спрабаваў перакладаць «Віцязя ў тыгрынай шкуры» з грузінскай на рускую. І вось тут самы час узгадаць прозвішча яшчэ аднаго аматара пушкінскай паэзіі. Чаму я здзівіўся суседству Сталіна з Пушкіным? Таму што сёння партрэт Іосіфа Вісарыёнавіча звычайна сустракаецца побач толькі з Аляксандрам Рыгоравічам — на мітынгах і дэманстрацыях у горадзе-героі Мінску і ў расійскай сталіцы. Абодва — вусатыя, абодва — галоўнакамандуючыя. Абодва любяць Пушкіна. Нарэшце, і той, і другі ў юнацтве грашылі вершыкамі. А самае галоўнае падабенства якраз у тым, што іх двух узнімаюць на сваіх сцягах проста чырвоныя і чырвона-карычневыя. Адзінае, што вершаў Лукашэнкі ніхто не чытаў. Ён толькі сам у адным інтэрв'ю прызнаўся, што сшытак з імі дагэтуль захоўваецца ў вясковай хаце ў Рыжкавічах. У тым жа інтэрв'ю прэзідэнт прызнаўся, што найбольш, аднак, любіць паэзію Ясеніна (які выпусціў зборнікі вершаў «Масква кабацкая» і «Русь советская»). Таму не выключана, што давядзецца беларусам адзначаць яшчэ і ягоныя ўгодкі.

А пакуль усплывае наступнае імя, звязанае і з Пушкіным, і з Лукашэнкам. Быў у аўтара «Яўгена Анегіна» прыяцель Адам Міцкевіч, 200-ыя ўгодкі якога ў канцы гэтага тыдня будуць адзначацца афіцыйнымі ўладамі ў горадзе Навагрудку. Ён, як вядома, з'яўляецца паэтам з сусветнай славай. Адзначаць свята загадаў сам прэзідэнт Лукашэнка. Аднак, у раскладзе ягонай дзейнасці на гэты тыдзень паездка ў Навагрудак чамусьці не плануецца. Магчыма, замест яго паедзе прэм'ер-міністр. Чаму ж Аляксандр Рыгоравіч перадумаў? Таму што Саюз палякаў прыгразіў правесці ў Навагрудку пікет у гэты самы час? Ці таму, што не спадабалася прадстаўнічасць польскай дэлегацыі (хутчэй за ўсё, з Варшавы прыедзе міністр культуры)? А можа ўсё ж таму, што, ужо не кажучы пра Ясеніна, «Цыганы» і «Палтава» Пушкіна яму падабаюцца значна больш за «Пана Тадэвуша»?

*Правінцыя*

# Жыццё на мяжы

**НАША СТАНЦЫЯ** — апошняя перад Украінай. Акрамя мытнікаў, якіх апошнім часам паболела, тут дзяжураць яшчэ і памежнікі. Зарплата ў іх ад 5 да « мільёнаў рублёў, але грамадскасць пасёлка ўпэўненая, што «яны і на гэта не зарабілі». Сапраўды, работа ў памежнікаў і мытнікаў — не бі ляжачага. За суткі на станцыі спыняецца добра калі 2—3 цягнікі, а ўзімку ўвогуле будзе адзін. Работа простая: прабегчы па вагонах, праверыць дакументы, гыркнуць на пасажыраў, у якіх шмат багажу, — асаблівых праверак няма. Ды і што там правяраць? Якасць украінскага сала? Толькі дурань павязе кантрабанду цягніком. Сур'ёзныя людзі даўно засвоілі іншыя шляхі.

Можна было б паганяць валютчыкаў, але тут бачым поўнае ўзаемапаразуменне: валютчыкі прачосваюць цягнікі ледзь не разам з мытнікамі і памежнікамі. Увесь астатні час «вартавыя» дрэмлюць у сваіх вагончыках. Навошта яны тут?

**ЧЫТАЮ** ў прэзідэнцкай газеце ліст чытача. Гэтага чалавека па нейкіх прычынах занесла ў расійскі горад Навазыбкаў. Што яго больш за ўсё ўразіла там, дык гэта мясцовы рынак, дзе кожны другі гандляр — беларус. Гандлююць, піша чытач, без усякага сораму, нават не звяртаюць увагу на тое, што вываз многіх прадуктаў забаронены ўказам прэзідэнта. Абураны чытач ушчувае гандляроў: ці даўно, маўляў, у калгасе былі? На што тыя яму адказалі: а што мы там згубілі?

Газета каменціруе ліст такім чынам: адміністрацыйнымі мерамі праблему не вырашыш (якое глыбокае адкрыццё). Трэба, піша невядомы каментатар, стварыць такі маральны клімат, «каб людзі разумелі, наколькі цяжка адбіваецца на эканоміцы нашай краіны, на асартыменце магазінаў «спрытнасць» асобных спекулянтаў».

Як гаворыцца, «свежо предание...» Адразу і не ўцяміш: смяяцца тут ці плакаць. Хутчэй чалавек пасмяецца, прачытаўшы заклік, што везці ў Расію беларускую смятану — гэта дрэнна і амаральна. Можна замініраваць мяжу, закапаць там танкі, паставіць кулямётныя кропкі — везці «харч» будуць усё роўна. У эканоміцы ёсць катэгорыі эфектыўнасці, рэнтабельнасці, ліквіднасці і г.д. — катэгорыя маральнасці там адсутнічае. Гэта не з той оперы. Тавар заўсёды будуць везці туды, дзе яго можна выгадна прадаць.

**ГЭТЫМ ЯКРАЗ** і займаецца адна мая знаёмая, якая гадуе дзвюх дачок ды яшчэ корміць беспрацоўнага мужа. Уладкавацца на работу ў пасёлку чалавеку маладому ці сярэдняга ўзросту практычна немагчыма. Толькі хіба што па вялікім блаце. Большасць прадпрыемстваў спыніліся якраз напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў і з таго часу прыкметаў жыцця не падаюць. Стаіць ільнозавод, бо калгасы перасталі сеяць лён. Зачыненна на замок вароты райсельгастэхнікі. Даўно збанкрутавала адзіная будаўнічая арганізацыя. Па сутнасці, пастаянна працуюць толькі вузел сувязі, чыгунка, хлебазавод ды магазіны, дзе другую пяцігодку запар вісяць адны і тыя ж рэчы. Моладзь бяжыць з паміраючага пасёлка куды вочы глядзяць, хаця выбар невялікі: альбо ў Гомель, дзе знайсці працу таксама вельмі праблематычна, альбо яшчэ далей.

Старыя ратуюцца гандлем. Ці дома, ці ў Гомелі прадаецца ўсё, што можна падняць: садавіна, гародніна, грыбы, малако, масла, тварог і інш. Кожным ранкам на станцыі збіраецца натоўп у чаканні цягніка з Украіны. Адтуль таксама вязуць да нас прадукты, але прадаюць іх яшчэ танней, чым беларусы свае. Украінцам не пазайздросціш: хлеб іх горкі. З вузламі, мяхамі ды сумкамі яны едуць да нашай станцыі, потым — перасадка на Гомель. У Гомелі трэба паспець распрадацца і прабегчы па магазінах, закупляючы ўсё, што трапіць на вока. Так і жывём: мы возім прадукты ў Расію, украінцы — у Беларусь, а ўсё разам называецца інтэграцыя пад лозунгам: «Выжыць любой цаной!» Ці спыніць гэтае простае і зразумелае імкненне мытня нават з памежнікамі разам? Смешна гаварыць...

**А Ў МЯСЦОВЫМ** калгасе падчас жніва ўзнікла немалая праблема: не маглі знайсці вартавых на зернеток. Спачатку ставілі жанчын, як больш маральна ўстойлівых. Але збожжа працягвала знікаць тонамі. Старшыня калгаса быў вымушаны адмовіцца і ад жанчын. А там і жніво скончылася. У найноўшай гісторыі раёна, праўда, былі выпадкі і больш крутыя. Аднойчы, напрыклад, у гароднінаводчым калгасе капусту ахоўвала міліцыя з аўтаматамі Калашнікава і баявымі патронамі. Даходзіла нават да стрэлаў у паветра. Увогуле, крадзеж у калгасах-саўгасах дасягнуў фантастычных памераў. Практычна ў любой вёсцы вам могуць прадаць машыну сена ці саломы літаральна за бутэльку гарэлкі. Як тут не нагадаць Карла Маркса: калі рабочаму класу (у дадзеным выпадку, сялянам) што-небудзь не дадаюць, ён бярэ гэта сам.

Неразбярыха ў калгасах, трэба сказаць, вельмі дапамагае жыхарам пасёлка. Пасля «ўборкі» кукурузы ці бульбы, ці яшчэ якой карыснай гародніны ўвесь працаздольны народ выходзіць на палі — калгас не ў стане ўбраць ураджай належным чынам. Народ даволі актыўна «дапамагае», забяспечваючы сваю жывёлу кармамі на ўсю зіму.

Так што людзі ў правінцыі жывуць па знаёмым прынцыпе: дзяржава бярэ ў іх, а яны — у дзяржавы. Колькі гэта яшчэ будзе цягнуцца — адзін Бог ведае. Народ у нас, ва ўсякім выпадку, цярплівы, прывычны да ўсяго і вынаходлівы. Не прападзе.

**Андрэй СЯРЖАН**

# Есть такая «спецтруба»

БЕЛОРУССКИЙ ДОЛГ российскому «Газпрому» сегодня составляет около 240 млн. долларов. Недавно в газетах промелькнуло сообщение о том, что первая часть технического кредита в 10,3 млн. долларов, предназначенного для погашения задолженности Минска, переведена в контору Вяхирева. Как выяснилось, перевод денег был осуществлен через «Белгазпромбанк», «0 процентов уставного капитала которого принадлежит «Газпрому».

Пытаясь разобраться в вопросе, откуда взялись деньги, газета «Московская правда» взяла интервью у бывшего генерального секретаря Экономического суда СНГ Виктора Гончара. Он-то и рассказал журналистам о «спецтрубе», которая представляла собой отросток от газопровода «Дружба», протянутый в ГДР. Об этом бизнесе, по словам В.Гончара, знал чрезвычайно узкий посвященный круг лиц, максимально приближенных к В.Черномырдину и белорусскому премьеру В.Кебичу. *«Вряд ли этот бизнес умер,* — полагает В.Гончар. — *Ведь никаких технологических трудностей нет. Ставится где-то заглушка, и прокладывается временная труба в другое место. Скажем, куда-нибудь в Балтию».*

Как выяснилось, еще одна подобная труба ведет в Гродно на завод «Азот», о покупке которого, кстати, уже не первый год «Газпром» ведет переговоры.

Журналистам удалось выяснить, почему А.Лукашенко мертвой хваткой держится за «Азот», Мозырский и Новополоцкий НПЗ. Если он даст их приватизировать, то, вообще, останется в стороне от тех финансово-газо-нефтяных потоков, которые сегодня текут через Беларусь.

Нефть в Беларусь поставляют три российские фирмы: «Лукойл», «Славнефть» и «ЮКОС». После того, как однажды фирму «ЮКОС» в Беларуси «кинули» на 8 млн. долларов, она ушла с белорусского рынка. Остались «Лукойл» и «Славнефть». Но и им Беларусь должна около 170 млн. долларов. Причем без всяких перспектив долг вернуть.

Большая часть этого долга приходится на «Лукойл». Однако, снижать поставки нефти в Беларусь фирма не собирается. Откуда такая филантропия, да еще в столь тяжкие времена? Во-первых, половину своей мощности белорусские НПЗ обеспечивают толлингом, то есть за поставленную нефть расплачиваются нефтепродуктами. Как известно, лучшего способа ухода от налогов, чем толлинг, обрабатывающие предприятия и их поставщики еще не придумали. А, во-вторых, обиженный Лукашенко как-то проговорился: мол, я знаю, что некоторые россияне указывают одни объемы нефти и нефтепродуктов, прокачиваемых через нашу республику, а на самом деле гонят гораздо больше. Насколько больше? *«А вы посчитайте сами,* — посоветовали журналисту. — *Рентабельность меньше 200-300% Лукойл не интересует. Плюс ему еще надо окупить долг в 170 млн. долларов, который он никогда не получит».*

*По материалам российской печати*

# Пустой кошелек – результат интеграции

## *А нам предлагают ее углубить*

**Константин СКУРАТОВИЧ**



Ну вот и дожили. Цены растут буквально на глазах. Народ сметает с прилавков остатки муки, крупы и всего прочего, что еще продается по «старым» ценам. Жизнь вздорожала так, что дух захватывает.

Кто виноват во всем этом, говорить не приходится. Не бывает же так, что все заслуги принадлежат одному человеку, а все недостатки исключительно остальным. Виноват, конечно, тот, кто взял под свой контроль все — от вывоза органики на поля до геополитики, от приемных экзаменов в институты до управления финансами.

Теперь Он в очередной раз пробует всю ответственность за провалы переложить на плечи других. По поводу российского финансового кризиса Он уже заявил, что Россия как «Титаник», если затонет, то затянет и всех остальных. Но ведь легендарный «Титаник» никого не затянул, рядом с той воронкой не было суденышек помельче. А мы мало того, что пятый год с маниакальной настойчивостью интегрируемся с Москвой во имя непонятных идей и сомнительных политических амбиций, мы еще и все свои яйца складываем в российскую корзину. А между тем, пользуясь нашей экономической беспомощностью, эта страна продает нам нефть и газ по ценам выше мировых. По-братски, что называется.

Но и это не все: поскольку у покупателя денег, как правило, нет, то мы просто обмениваемся — «шило на мыло да быка на индыка».

Теперь же и эта «лафа» кончится. Потерпевший финансовый крах российский рынок резко сузился и не сможет в прежних нарастающих количествах потреблять белорусскую продукцию даже по бросовым ценам. Теперь одно из двух: или полный отказ от денег и переход на абсолютный бартер, а значит и полный отказ от политической самостоятельности, или «инвентаризация» экономики для ее срочного реформирования и продажи капиталистам того, что еще можно продать. Понятно, за деньги.

Но наше руководство денежную приватизацию не приемлет. У него просят, продайте гараж, а им в ответ — мы Родиной не торгуем. А между тем, наши бывшие коллеги по соцлагерю, никак не меньшие патриоты, чем мы, выручают от продажи госсобственности «крутые бабки». Литва, например, получает сотни миллионов долларов ежемесячно, а иностранные инвестиции в Венгрию (население 10 миллионов, как и в Беларуси) превысили 15 миллиардов.

Для чего же нас подталкивают к российской воронке-пропасти. Только для того, чтобы, продемонстрировав простодушному люду мнимую экономическую стабильность и даже экономический рост, затем выступить в роли Спасителя общего Отечества, эдакого Ильи Муромца, победителя супостатов. Так ныне «супостат» обосновался в Кремле, и своих спасителей там хоть пруд пруди. За ширмой под названием СНГ, которую все остальные страны использовали, чтобы как можно больше обезопасить себя от бывшей метрополии, нашему герою уже неуютно. Психологически Он чувствует себя там как бы бесхозным, покинутым всеми «искренним» интегратором, которого уже не опасаются враги и оставляют союзники. Он ведь сейчас и Москве совершенно не нужен — пользы на грош, а вреда может принести много. В нынешней российской смуте ставки слишком велики. Вот после, когда придет время зализывать раны, можно и воспользоваться тем простодушием, с которым Он относится к суверенитету собственной страны.

Если Он предусматривал такой сценарий и делал ставку на «время Ч», то явно переоценил свой политический вес. Поэтому, кроме демонстрации намерений в виде предложений организации прямых выборов в совместный российско-белорусский парламент, утверждения гимна и флага «союзного государства», введения единого гражданства, ничего не остается. Готовы, мол, тонуть вместе, под единым флагом. Причем, спасательные жилеты выдавать вроде никто и не собирается. Просто ставят в известность, что собираются открыть кингстоны.

Нынешняя российская неразбериха, по мнению специалистов, прежде всего ударит по Украине и, в большей степени, по Беларуси. Первая пострадает от того, что не успела полностью деинтегрироваться, вторая — от того, что ничего не сделала для поиска иных, более надежных экономических и политических партнеров. Поэтому Украина получит финансовую подпитку с Запада, а мы — кукиш с маслом. С другой стороны, на долю России приходится 60 процентов общего объема белорусского внешнеторгового оборота. А это значит, что тамошний кризис съест весь наш промышленный прирост. Повторится ситуация 1992 года, с той лишь разницей, что тогда причиной падения производства стала сознательная либерализация цен, а ныне российский рубль вырвался на свободу сам по себе. И в том, и в другом случае цены ведут себя одинаково — растут.

И у всей этой «геополитики» — один результат: очереди, дефицит, карточки и распределение «в одни руки». Наша рыночная реформа завершается также, как и начиналась, то есть бездарно. В некоторые магазины уже не пробиться, очереди за макаронами и крупой превышают прежние водочные. Настали времена устанавливать новый порядок, оформлять это политически?..

# Пошукі цудаў

## *Нататкі з падарожжа па Італіі*

КОЖНЫ ТУРЫСТ, які адрываецца ад сумнай беларускай рэчаіснасці і накіроўваецца ў Італію, гатовы да сустрэчы з цудам. Можна сказаць, што ён шукае гэты цуд, як героі п'есы Метэрлінка шукаюць Блакітную птушку шчасця.

Але дзе ж ён, той цуд? Архітэктурныя помнікі — толькі сведкі мінулых падзей.

### Рым

Вось Траянскія базары, але на іх ужо даўно нічога нельга ні прадаць, ні набыць. Можна толькі глядзець на руіны і думаць пра багаты Старажытны Рым.

Вось Калізей, але гладыятарскія бойкі ў ім скончыліся яшчэ ў 404 годзе, і трэба мець багатую фантазію, каб уявіць тых людзей і звяроў, якія загінулі на гэтай арэне. Жорсткія відовішчы, якія прываблівалі рымскіх грамадзянаў, адышлі ў мінулае. Застаўся толькі шэры камень.

На ўсё можна глядзець, але ні ў чым нельга паўдзельнічаць. Ратуюць турыста ад бяздзейнасці розныя рытуалы і традыцыі. Іх шмат. У кожным месцы свае.

Напрыклад, у саборы св. Пятра экскурсавод кажа: *«Сцвярджаюць, што кожны, хто дакранецца да нагі бронзавай статуі св. Пятра, ачысціцца ад усіх сваіх грахоў».* У шэрагах экскурсантаў пачынаецца ажыўленне. *«Не цяпер,* — просіць экскурсавод, — *у вас будзе вольны час, тады ачысціцеся».* Але ля ног св.Пятра ўсё адно выстройваецца чарга. Проста ачысціцца — мала, трэба ж яшчэ сфатаграфавацца (каб дома паверылі, што сапраўды бязгрэшны). Ногі ў бронзавай статуі св. Пятра сцёртыя ўшчэнт.

Кожнаму хочацца не проста глядзець, а дзейнічаць.

Каля славутага фантана Трэві беларускія турысты ўважліва выслухоўваюць інструкцыі экскурсавода аб тым, у якую руку трэба ўзяць манету і праз якое плячо кінуць яе ў фантан, каб яшчэ раз наведаць Рым. Манета абавязкова павінна быць італьянская — гарадскія ўлады перыядычна дастаюць грошы з фантана, а сабраныя сродкі ідуць на рэстаўрацыю.

### Фларэнцыя

У царкве Санта Крочэ (Святога Крыжа) пахаваны вялікія фларэнцыйцы. Цела Мікеланджэла ягоныя землякі выкралі з Рыма і пад выглядам мяшка з прадуктамі прывезлі ў Фларэнцыю. «Не ўкралі, а вярнулі на Радзіму!» — тлумачыць экскурсавод. Цела Дантэ Аліг'еры вярнуць у Фларэнцыю не ўдалося, але ягоная сімвалічная магіла выглядае не горш за ўсе астатнія. А тое, што парэшткі Дантэ засталіся ў Равене, сёння мала каго хвалюе.

На даволі сціплым надмагіллі алегарычная фігура Палітыкі трымае ў руках медальён з выявай сакратара Фларэнційскай рэспублікі, заснавальніка сучаснай паліталогіі — Нікола Макіявелі. Ля магілы Макіявелі міжволі ўзгадваюцца ягоныя словы: *«Цяжка народу, які прывык жыць у няволі, захаваць сваю свабоду, калі ён набыў яе выпадкова. Прывыкшы жыць пад уладай іншых, ён не можа ўзважыць ні таго, што карысна грамадству, ні таго, што яму шкодзіць, і зноў схіляе галаў пад новае ярмо, якое часам аказваецца цяжэйшым за тое, якое ён толькі што скінуў».*

Але гэта ўсё філасофія. У самым пачатку знаёмства з Фларэнцыяй экскурсавод паабяцаў расказаць пра тое, як разбагацець. І вось мы ўжо на плошчы Сіньорыі, дзе ў 1498 годзе быў павешаны, а пасля спалены фактычны кіраўнік Фларэнційскай рэспублікі, дамініканскі манах Джыралома Саванарола. Вось на гэтай самай плошчы даюць параду: *«Ідзіце па гэтай вуліцы, там убачыце скульптуру Дзіка. Пачухайце яго і кінце яму манету. Вы абавязкова разбагацееце і вернецеся ў Фларэнцыю. Толькі не называйце яго Дзікам. Назавіце яго ласкава Парчэліна»* (*porcelino* значыць па-італьянску — кабанчык).

Словы экскурсавода ўразілі стомленых турыстаў: яны з новымі сіламі паспяшаліся да Парчэліна. Бухгалтарцы з Мінска, якая падарожнічала з шаснаццацігадовай дачкой, відаць, хацелася разбагацець больш за іншых. Яны першымі кінуліся да Парчэліна. Рэзкімі штуршкамі маці з дачкой распіхалі натоўп турыстаў і ўхапіліся за галаву дзіка. Некалькі хвілінаў яны трымалі бронзавую жывёліну за вушы, спрабуючы закінуць манетку ў бліскучую пашчу дзіка. На жаль, нічога не атрымалася, і абураная бухгалтарка ляснула дзіку ў лыч і гучна вымавіла фразу з некалькіх каротkіх словаў, сэнс якіх зразумелі нават японцы.

### Венецыя

Венецыя для кожнага — розная. Слушна заўважыў пісьменнік і мастацтвазнаўца Павел Мурат: *«Сучасная Венецыя толькі прывід былога жыцця, і вечнае свята на П'яццэ — толькі баль чужаніцаў на пакінутым гаспадарамі месцы».* Пісалася гэта напачатку XX стагоддзя, але Венецыя і цяпер выглядае як прывід. Пра гэта гаворыць і гаспадар рэстарана-піцэрыі *«TRE G»*, куды мы, адарваўшыся ад дружнага натоўпу нашых суайчыннікаў, зайшлі паесці разам з абаяльнай супрацоўніцай мінскай турфірмы Ганнай Тумель.

Ганна добра валодае італьянскай мовай, і гэта дае нам магчымасць пагаварыць з гаспадаром рэстарана — гісторыкам па адукацыі, сапраўдным венецыянцам. Ён гаворыць: *«Венецыя — гэта міф. Яна ўзнікла з нічога, ператварылася ў сімвал багацця і магутнасці, а цяпер зноў ператвараецца ў нішто. Усё на свеце мае свой росквіт і заняпад. Так было з Венецыянскай рэспублікай — некалі магутнай і незалежнай. Вы ў сябе на Радзіме павінны жыць лепш, чым цяпер. У вас добрая зямля і шчырыя людзі, але ж няма добрага кіраўніцтва».*

Гаспадар рэстарана шмат чытае, таму ведае пра Беларусь і яе праблемы. Ён жа паказвае нам італьянскія газеты з артыкуламі, прысвечанымі фінансаваму крызісу ў Расіі і ягоным наступствам у СНД. Так у казачнай Венецыі мы даведаліся пра фантастычны курс долара, які чакаў нас дома.

**Паліна СЦЕПАНЕНКА, Мікола СЦЕПАНЕНКА**



*Як і сотні гадоў назад, вуліцы ў Венецыі — гэта каналы.*

